ПАГОНЯ

Чацвер
13 ліпеня 2000 г.
№ 25 (472)
Кошт 70 рублёў

## Каровы будуць галадаць. І не толькі каровы...

**Трывожнае становішча з нарыхтоўкай кармоў склалася ў Гарадзенскай вобласці, дзе практычна завяршылася ўборка траваў першага ўкосу.**

На сёняшні дзень нарыхтавана 128 тысяч тон кармавых адзінак, ці ўсяго 20 працэнтаў ад патрэбы. Звычайна з першага ўкосу нарыхтоўвалася каля 60 працэнтаў запасаў травяных кармоў. Напрыклад, у апошнія 6 гадоў аб'ём нарыхтовак на гэты перыяд складаў 320-350 тысяч тон. Сёння на адну галаву жывёлы маецца 2,8 цэнтнера кармоў (пры 4,6 цэнтнера летась). Асабліва цяжкая абстаноўка ў Свіслацкім раёне, дзе на адну галаву жывёлы нарыхтавана толькі 1,3 цэнтнера кармоў.

Спецыялісты тлумачаць сітуацыю найперш дрэнным надвор'ем. Становішча ўскладнілася тым, што ў сувязі з гібеллю кармавых угоддзяў плошчы для нарыхтоўкі фуражу паменшыліся на чвэрць. Акрамя таго, у шэрагу гаспадарак кармавыя ўгоддзі не атрымалі дастатковай падкормкі мінеральнымі ўгнаеннямі.

## Забойца з псіхбальніцы

**Жорсткае забойства было ўчынена 9 ліпеня ў Варнянскім доме-інтэрнаце для псіханеўралагічных хворых, які размешчаны ў вёсцы Дубнікі Астравецкага раёна Гарадзенскай вобласці. Каля пяці гадзін раніцы адзін з пацыентаў напаў на суседа па палаце і металічнай дужкай ад спінкі ложка нанёс яму некалькі удараў па галаве.**

На месца злачынства аператыўна выехалі пракурор і начальнік райаддзела міліцыі. У той жа дзень забойца быў накіраваны ў абласную псіхіятрычную бальніцу.

Узбуджана крымінальная справа па артыкуле 101 Крымінальнага кодэкса - «Намыснае забойства».

**Ася Куніцкая**

## Міліцыянт застрэліўся з-за дзяўчыны

**5 ліпеня, блізу чатырох гадзін дня застрэліўся інспектар дарожна-патрульнай службы ДАІ Смаргонскага РАУС сяржант міліцыі Барысевіч.**

Здарэнне адбылося непадалёку ад горада Смаргонь, у кустарніку ля трасы Барысаў-Ашмяны. Сяржант развітаўся з жыццём, стрэліўшы ў скронь з табельнай зброі, пісталета Макарава.

Як паведамілі ПАГОНІ ў органах унутраных справаў, супрацоўнік міліцыі Барысевіч меў 24 гады і працаваў інспектарам ДАІ з 1997 года. Нейкімі незвычайнымі псіхічнымі схільнасцямі не вызначаўся. А чыпцаў з жыцця яго вымусілі непаразуменні з каханай дзяўчынай.

Варта адзначыць, што ў бягучым годзе зафіксавана ўжо 7 выпадкаў самагубства сярод супрацоўнікаў міліцыі. У параўнанні з 1999 годам гэта лічба вырасла на 40 працэнтаў.

Толькі ў траўні 2000 года міліцыянтамі здзейснена чатыры суіцыды. Асноўныя прычыны - сямейныя канфлікты і неўпарадкаванасць асабістага жыцця.

Наогул самагубствы становяцца досыць частай з'явай у беларускім грамадстве. З першага ліпеня па Гарадзенскай вобласці зафіксавана ўжо 12 смяротных выпадкаў.

**Іван Паўлёнак**




14, 15 ліпеня - пераменная воблачнасць, месцамі - ападкі, вецер заходні, 4-9 м/с. Тэмпература паветра 14, 15 ліпеня - уначы +8...+13, удзень +17...+22.




**Аляксандр Лукашэнка рэзка адрэагаваў на рашэнне Кангрэса ЗША аб адмене шэрагу гандлёвых прэферэнцыяў для Беларусі. У інтэрв'ю журналістам ён адзначыў, што ў выніку рэспубліка, якая пацярпела ад Чарнобыля, пазбаўлена штогадовага прыбытку ў мільён даляраў. Аднак амерыканцы такім чынам упусцілі нешта большае, лічыць кіраўнік нашай дзяржавы. «Я знайду адэкватны адказ на гэтыя дзеянні, у даўгу не застануся», - заявіў Аляксандр Лукашэнка.**

## Страда ў прыёмных камісіях

**У суботу, 15 ліпеня, скончыцца тэрмін падачы дакументаў у ВНУ. У Гродне самыя папулярныя спецыяльнасці сярод абітурыентаў - эканаміст, юрыст, медсястра.**

Самы вялікі тлум гэтымі днямі - ля кабінетаў прыёмнай камісіі Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэту. Тут набіраюць абітурыентаў ажно амаль што на 40 спецыяльнасцяў. Сёлетні план прыёму на бюджэтную форму навучання - 880 чалавек, было пададзена 1418 заяваў. Самы вялікі конкурс - на факультэты правазнаўства (2,5 чалавекі на месца), сучаснага замежнага мовазнаўства (2,6 чалавекі на месца), псіхалогіі (2,1 чалавекі на месца), ангельскай мовы (2 чалавекі на месца). Пакуль што «недабор» заяваў на музыку і спевы, народную творчасць, фізіку. На дзіва адсутнічае ажыятаж сярод жадаючых трапіць на факультэт «Сусветная эканоміка і МЭА» - у аўторак раніцай было пададзена 14 заяваў на 15 месцаў. Аднак ва універсітэцкай прыёмнай камісіі лічаць, што апошнія дні падачы заяваў могуць кардынальна змяніць сітуацыю з конкурсам на розныя факультэты.

У Гарадзенскім дзяржаўным медычным універсітэце звычайны конкурс - ад 2,9 чалавекі на месца да 3,1. У аўторак самым папулярным з чатырох факультэтаў выглядаў сястрынскі - 115 заяваў на 43 месцы. Болей за план прыёму пададзена заяваў на лячэбны і медыка-псіхалагічны факультэты. На педыятрычны пакуль што былі вакансіі - 36 заяваў на 65 месцаў. Аднак адказны сакратар прыёмнай камісіі спадар Вільчук лічыць, што да суботы утворыцца звыклы конкурс па ўсіх спецыяльнасцях.

Сельскагаспадарчы інстытут - лідар па папулярнасці ў абітурыентаў, бо ўжо сёння мае самы высокі конкурс. На факультэт «Эканоміка і кіраванне на прадпрыемстве» на кожнае месца прэтэндуе амаль што 10 абітурыентаў. Да параўнання: у ГрДУ на ідэнтычны факультэт - конкурс у межах 2 чалавек на месца. Ірына Шыбанава, адказны сакратар прыёмнай камісіі, абумоўлівае такі высокі конкурс адносна нізкай аплатай за год навучання для тых, хто не пройдзе па выніках экзаменаў на бюджэтны паток. Абітурыентаў, акрамя таго, прыцягвае кваліроўка эканамістаў з дыпломам ГСГІ сярод працадаўцаў і магчымасць замежных стражыровак падчас навучання.

На астатніх пяці факультэтах інстытута сітуацыя выглядае наступным чынам. На «Абарону раслін і каранцін» - конкурс тры чалавекі на месца; «Агранамію» - 2,2; «Аграхімію» - 1,5; «Ветэрынарную медыцыну» - 2,1; «Заатэхніку» - 1,2.

**Алена Сіневіч**

## Галоўнага мастоўскага абэпаўца затрымалі за хабар

**Нядаўна супрацоўнікі КГБ па Гарадзенскай вобласці арыштавалі начальніка аддзела па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю мастоўскай міліцыі Аляксандра Хадаску.**

Затрыманне адбылося ў будынку райаддзела ўнутраных справаў, проста на працоўным месцы. Раніцай, у пачатку дзесятай гадзіны, калі супрацоўнікі аддзела сабраліся ў актавай зале на заняткі, двое мужчынаў у цывільным у імгненне вока пераселі двор перад міліцыяй ды пераскочылі цераз уваходны бар'ер. Дзяжурны нарад не паспеў іх затрымаць і вымушаны быў аб'явіць трывогу: «Напад на міліцыю!». Неўзабаве з'явілася яшчэ сем супрацоўнікаў камітэта. Маёра Хадаску выклікалі з заняткаў, і ў яго кабінеце быў праведзены вобыск, падчас якога, паводле словаў аднаго з супрацоўнікаў міліцыі, які прасіў не называць яго прозвішча, былі знойдзены «мечаныя» даляры, якія начальнік Мастоўскага АБЭЗ атрымаў у якасці хабару. Тут жа Аляксандр Хадаска быў арыштаваны і змешчаны ў гарадзенскі следчы ізалятар. Згодна словаў таго ж супрацоўніка міліцыі, адносна Аляксандра Хадаскі можа быць узбуджана крымінальная справа па артыкуле 169, частка 2 Крымінальнага кодэксу (атрыманне хабару шляхамі вымагальніцтва).

Пракаментаваць факт затрымання кіраўніцтва мастоўскай міліцыі адмовілася.

Як стала вядома карэспандэнту, праз тры дні затрыманага выпусцілі пад распіску аб нявыездзе. За гэты час Аляксандр Хадаска быў звольнены з органаў унутраных справаў. Дарэчы, у гэты дзень за атрыманне хабару быў затрыманы і супрацоўнік Іўеўскай міліцыі.

**Язэп Палубятка**

Супрацоўнікі УКГБ РБ па Гарадзенскай вобласці ў красавіку 2000 года спынілі гандлюючую дзейнасць часова пражываючага ў Гродна грамадзяніна сонечнага Азербайджана. Іншаземец з прычыны «вострай неабходнасці ў грошах» хацеў прадаць за 200 даляраў ЗША 2,1 кілаграмаў ртуці, якая была ў яго, за што і быў змешчаны ў ізалятар часовага ўтрымання.

Праз два месяцы, у чэрвені 2000 года, другі гандляр моцнадзейным атрутным рэчывам, зараз ужо жыхар горада над Нёманам, спланаваў сваё гандлёвае пагадненне. Пры спробе збыту 12,5 кг ртуці ён быў затрыманы на аўтамабільнай стаянцы па вул.Болдзіна.

У адносінах да абодвух бізнесоўцаў узбуджаны крымінальныя справы паводле прыметаў саставу злачынства, прадугледжанага часткай 1 артыкула 219 Крымінальнага Кодэксу Рэспублікі Беларусь.

## З мяжы здымаюць сігналізацыю

**Дэмантаж электронна-сігнальнай сістэмы распачаўся на ўчастку дзяржаўнай мяжы Рэспублікі Беларусь, які абслугоўвае Гарадзенскі памежны атрад. Яго праводзяць самі памежнікі.**

Мяркуецца, што пасля дэмантажу асноўным сродкам кантролю за незаконным перасячэннем мяжы застанецца кантрольна-следавая паласа. Памежнікі таксама спадзяюцца на дапамогу ў ахове мяжы з боку мясцовага насельніцтва. Зняцце калючага дроту дазволіць надаць мяжы больш цывілізаваны выгляд і, апрача ўсяго, сэканоміць значныя сродкі на яе абслугоўванне.

Раней памежнікам нярэдка даводзілася выязджаць на розныя ўчасткі мяжы дарэмна, калі электронна-сігналізацыйныя сістэмы рэагавалі на праходжанне жывёлы.

**Ася Куніцкая**

## Дык хто ў адказе за тых, каго прыручылі?

**У аўторак, 11 ліпеня, адбыўся ўстаноўчы сход гарадзенскай грамадскай ініцыятывы «Таварыства абароны жывёлаў».**

Ініцыятар стварэння арганізацыі - нідзе не працуючы гарадзенец Юрый Аўчыннікаў. За першачарговую мэту сваёй дзейнасці па абароне жывёлаў ён называе неабходнасць тэрмінова перапыніць жорсткае знішчэнне бадзяжных катоў і сабак з ведама гарадскіх уладаў. Юрый, паводле ягоных словах, усё жыццё займаецца справай выратавання жывёлаў. Трымае ў сваёй кватэры сямёра катоў і тры сабакі. Праўда невядома, як да гэтага ставяцца суседзі.

Штуршком да гуртавання мясцовых абаронцаў фауны стала адшуканне імі свалкі ля Гожы, куды з Гродна звозяць адстраляных, мёртвых і параненых катоў і сабак.

Мноства здзічэлых хворых і галодных «сяброў чалавека» стала сапраўдным бедствам для тых гараджанаў, якія не маюць гарачых пачуццяў да братоў нашых меншых. Нічыйныя сабакі бегаюць па дзіцячых пляцоўках, спяць ля прадуктовых крамаў і пераследуюць грамадзянаў з сасіскамі ў авоськах. Коцікі ж крычаць благім матам у цёплыя мартаўскія, ліпеньскія, верасnёвыя ночы. З гэтым трэба нешта рабіць.

- Справа не ў тым, каб іх не вынішчаць, а ў тым, якім чынам гэта рабіць. Мы прапануем гарадскім уладам усыпляць і стэрылізаваць жывёлін. Аднак станоўчага адказу пакуль што не атрымалі.

На ўстаноўчы сход, які праходзіў у адной з універсітэцкіх аўдыторыяў, прыйшло каля чатырох дзесяткаў чалавек. Было вырашана звярнуцца на Гарадзенскае тэлебачанне з прапановай праўдзіва паказаць жорсткае абыходжанне з бадзяжнымі жывёламі. Вырашана папрасіць святароў усіх канфесіяў падчас службаў прапагандаваць гуманізм у адносінах да звяроў.

У плане-максімуме Таварыства абароны жывёлаў - стварэнне ветэрынарнай лячэбніцы і прытулку для бяздомных катоў і сабак. У аўторак быў складзены спіс шарагоўцаў Таварыства, гатовых усяк ратаваць жывёлін ад праізволу.

**Алеся Макоўская**

# Маладафронтаўца спачатку збілі, а потым хацелі зрабіць стукачом

**У ноч з 5 на 6 ліпеня ў Менску на тэрыторыі тралейбуснага дэпо, што ў мікраёне «Дражня», супрацоўнікамі сталічнай міліцыі быў затрыманы актывіст Гарадзенскага Маладога Фронту Валер Кісель. Ён быў абвінавачаны ў тым, што быццам бы распісваў шыбы тралейбусаў лозунгам «Жыве незалежная Беларусь!». Пры затрыманні Валера быў жорстка збіты афіцэрам міліцыі. Пра гэта сведчаць шматлікія крывападцёкі на руках, сцёгнах і на спіне.**

Паводле словаў Валера Кісяля, ён сам не пісаў лозунгі на тралейбусах, а толькі назіраў. Свой удзел у акцыі ён абгрунтаваў досыць проста: «Іншым чынам улада не дазваляе паказаць альтэрнатыўную думку».

Прыкладна а 2.30 ночы на тэрыторыі дэпо з'явіліся міліцыянты, якіх адвіколі выклікаў вартаўнік. Моладзь адразу пачала ўцякаць і не спынілася нават на вокліч «Стой! Страляць буду!». Аднак ужо ў лесе, за тэрыторыяй дэпо, міліцыя здолела затрымаць Валера. Адразу ж афіцэр, старэйшы лейтэнант міліцыі, пачаў яго збіваць: біў і дубінкай, і кулакамі. Па ўсім целе, акрамя галавы.

Праз некалькі хвілінаў яго пацягнулі да міліцэйскага УАЗіка і паклалі на асфальт. Міліцыянт хацеў адразу праводзіць допыт, але Валер не адказваў на яго пытанні.

У Партызанскі РАУС, куды прывезлі маладафронтаўца, яго знялі на відэакамеру і склалі пратакол. Валера адмовіўся падпісваць абвінавачванне ў распісванні тралейбусаў. Тады яго пасадзілі ў камеру, дзе ён і прасядзеў астатні кавалак ночы.

Раніцай Валера зноў выклікалі на допыт. Міліцыянты намякнулі, што калі ён не падпіша пратакол, будзе толькі горш. Праз некаторы час яго завялі ў нейкі кабінет, дзе знаходзілася некалькі чалавек у цывільным.

«Яны не адрэкамендаваліся, але я зразумеў, што гэта супрацоўнікі спецслужбаў. Калі яны паспрабавалі пазнаёміцца, я запытаўся: «Вы з КГБ?». Яны адказалі, што не», - зазначае Валер Кісель.

«Людзі ў цывільным» хацелі высветліць, што маладзён робіць у Менску, дзе жывуць яго бацькі, якая мэта ягонага прыезду ў Менск. Пытанні паўтараліся, і так цягнулася даволі доўга.

Пагражалі фізічнай расправай, звальненнем з працы, асабліва пагражалі крымінальнай справай. Абяцалі засадзіць на два гады.

Праз некаторы час у кабінеце разам з Валерам застаўся толькі адзін з «суразмоўцаў».

«Ён стаў раптам лагодным, пачаў размаўляць, як з чалавекам. Назваўся Сяргеем Мікалаевічам, паказаў пасведчанне КГБ. Спачатку спытаўся пра адносіны да Пазьняка, пра настроі ў Гародні, разважаў пра рэжым, сістэму. Казаў, калі апазіцыя прыйдзе да ўлады, дык павыганяе ўсіх гэбістаў, і яны застануцца незапатрабаванымі», - апісвае размову Валера.

«Сяргей Мікалаевіч» з самага пачатку размовы прапанаваў супрацоўнічаць з органамі. Казаў проста, прапанаваў: « Давай сябраваць, мы зможам прынесці шмат карысці адзін аднаму». Казаў, што інфармацыю трэба будзе перадаваць зусім не сакрэтную, а так, агульную, кшталту, якія настроі ў Гародні.

Прапанаваў замацаваць дамову пісьмова. Атрымаўшы ад Валера адмову, прапанаваў ужо вуснае пагадненне. Кантактаваць трэба было тэлефанаваннем з Менску ў Гродна, з Гродна ў Менск. А калі-нікалі Сяргей Мікалаевіч абяцаў і сам наведвацца ў Гродна.

Не дабіўшыся згоды ад маладафронтаўца, «гэбіст» пакінуў нумар свайго пэйджэра так, «на ўсялякі выпадак», і сказаў, што праз гадзіну Валеру адпусцяць.

Пасля размовы з супрацоўнікам, Валера зноў адвялі ў камеру, пры гэтым начальнік РАУС паабяцаў, што засадзіць хлопца на поўную катушку.

У гэты час у аддзел міліцыі пачалі паступаць тэлефанаванні з праваабарончага цэнтру «Вясна-96».

Відавочна, спалохаўшыся шырокага розгаласу і рэзанансу ў грамадстве, міліцыя і тыя, хто трымаў справу маладафронтаўца на кантроле, хуценька абвесцілі прысуд - 156 артыкул, две тысячы штрафу.

А 17.00 шостага ліпеня Валеру выпусцілі з пастарунку.

На наступны дзень актывіст Маладога Фронту засведчыў афіцыйна пабоі, нанесеныя яму міліцыянтам, і падаў скаргу на імя пракурора Партызанскага раёна г.Менска.

Валер Кісель патрабуе «правесці даследаванне факту нематываванага гвалту і прыцягнуць вінаватых супрацоўнікаў міліцыі да адказнасці».

Уладам нішто не перашкаджала зрабіць справу крымінальнай і засадзіць хлопца за краты. Выпадак з Аляксеем Шыдлоўскім - яскравы таму прыклад.

Але чаму яны не пайшлі на гэта? У самога Валера ёсць дзве версіі. Першая - рэжым не будзе рабіць гучных справаў, паказваць сваю антыдэмакратычнасць, таму што чакае рэзалюцыі з Еўропы. Паводле другой версіі Валера, «цалкам магчыма, у КГБ спадзяюцца, што ён усё-ткі пойдзе на супрацоўніцтва з органамі».

**Павал Мажэйка**

# АБСЕ заклікае Лукашенку стаць дэмакратам

**10 ліпеня удзельнікі 9-й сесіі Парламенцкай асамблеі АБСЕ, якая праходзіла ў Бухарэсце, прынялі рэзалюцыю па Беларусі. Рэзалюцыя прынята амаль аднагалосна: супраць прагаласавалі дэлегацыя Расеі, некалькі прадстаўнікоў Узбекістана і адзін прадстаўнік Украіны; адзін дэлегат ад Чэхіі ўстрымаўся.**

Згодна з прынятым дакументам, беларускія ўлады павінны распачаць рэальныя перамовы, а не дыялог з апазіцыяй, і ўсталяваць у краіне дэмакратычныя нормы. Як адзначаецца ў рэзалюцыі, весці размову пра ўдзел апазіцыі ў парламенцкіх выбарах можна пры выкананні наступных ўмоваў: наяўнасць выбарчага заканадаўства, якое б адпавядала еўрапейскім дэмакратычным нормам; доступ апазіцыі да СМІ, у першую чаргу электронных; стварэнне атмасферы даверу; перамовы паміж апазіцыяй і ўладамі; спыненне пераследу апазіцыйных лідараў. Рэзалюцыя таксама заклікае беларускія ўлады даць шырокую інфармацыю пра зніклых апазіцыйных палітыкаў.

10 ліпеня, у апошні дзень сесіі, адбыліся таксама выбары старшыні Парламенцкай асамблеі АБСЕ. Ім стаў кіраўнік рабочай групы АБСЕ па Беларусі Адрыян Севярын. Ён быў адзіным кандыдатам: напярэдадні галасавання кандыдат ад Францыі Мішэль Вазан зняў сваю кандыдатуру.

# Адбыўся ліпеньскі Сойм БНФ

**8 ліпеня адбыўся Сойм БНФ. У парадку працы Сойму былі тры пытаньні: вынікі Кангрэсу Дэмакратычных Сілаў, Усебеларускі зьезд за незалежнасьць, арганізацыйная праца ў рэгіёнах і летнія акцыі. З дакладам выступілі намесьнікі старшыні БНФ Юры Хадыка, Віктар Івашкевіч, Вячаслаў Сіўчык.**

Як зазначыў наконт вынікаў Кангрэсу Дэмакратычных Сілаў (КДС) дакладчык Юры Хадыка, «Сойм падтрымаў усе рашэньні й усе пастановы Кангрэсу. Мы будзем клапаціцца, каб рашэньні КДС выконваліся. У першую чаргу - каб дзейнічаў інструмэнт узаемадзеяньня дэмакратычных сілаў - Каардынацыйная Рада дэмакратычных сілаў. Кангрэс - безумоўны крок наперад».

Што тычыцца ўдзелу БНФ у падрыхтоўцы Ўсебеларускага зьезду за незалежнасьць, то Сойм прыняў рашэньне даручыць Управе БНФ на бліжэйшым паседжаньні вылучыць дэлегатаў на Зьезд. Удзельнікі Сойму аднак зазначылі, што, на жаль, Зьезд рыхтуецца без шырокага інфармаваньня.

Вячаслаў Сіўчык, які быў дакладчыкам наконт арганізацыйнай працы ў рэгіёнах, паведаміў, што за апошнія месяцы зьявіліся суполкі БНФ у Гомельскай і Гарадзенскай абласьцях, у тым ліку ў Нароўлі, Рэчыцы, Рагачове, Карэлічах. Вялікую ўвагу Сойм зьвярнуў на неабходнасьць стварэньня абласных і раённых кааліцыяў дэмакратычных сілаў. Сойм вырашыў зьвярнуцца да рэгіянальных структураў, каб тыя супольна з палітычнымі партыямі, прафсаюзамі, недзяржаўнымі арганізацыямі падалі заяўкі на правядзеньне ў сваіх мясцовасьцях Дня Незалежнасьці 27 ліпеня.

З набліжэньнем восені прагназуецца абвастрэньне палітычнай сытуацыі. Геаграфія правядзеньня акцыяў, на думку сяброў Сойму, мусіць пашырацца з кожнай пратэставай акцыяй. Кожнай раённай арганізацыі БНФ прапанаванаў да першага верасьня правесьці сэрыі пікетаў у абарону настаўнікаў - як вядома, шмат дзе настаўнікам да гэтага часу не выплачаныя адпускныя й заробак.

**Ул. Інф**

# Улады ФРГ падтрымалі апазіцыю

**10 ліпеня ў сядзібе БНФ адбылася прэсавая канфэрэнцыя, прысьвечаная вынікам візіту аб'яднанай апазіцыі ў Бэрлін.З 5 па 9 ліпеня гэтыя людзі удзельнічалі ў афіцыйным візіце ў Нямеччыну, арганізаваным на запрашэньне Міністэрства замежных справаў гэтай краіны пры чынным удзеле КНГ АБСЭ ў Беларусі й прыватна Ганса-Георга Віка.**

**Дэлегацыя апазіцыйных палітычных партыяў і ВС 13 скліканьня мела сустрэчы ў Бундэстагу, Міністэрстве замежных справаў, з прадстаўнікамі фінансавых колаў і недзяржаўных грамадзкіх арганізацыяў, навукоўцамі й студэнтамі. Беларуская дэлегацыя пачула поўнае разуменьне патрабаваньняў апазіцыі дзеля правядзеньня свабодных выбараў. Прадстаўнікі ўладаў ФРГ выказалі падтрымку тым чатыром патрабаваньням, без выкананьня якіх правядзеньне вольных і сумленных выбараў у Беларусі немагчымае, а ўсялякія выбары ператвараюцца ў выбарчы фарс.**

**Ул. Інф.**

# Кангрэс перадае эстафету з'езду

**Сваімі ўражаннямі пра Кангрэс дэмакратычных сілаў, які адбыўся ў пачатку гэтага месяца ў Менску дзеліцца сябра Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання, каардынатар Рады «Рэгіянальная Беларусь», старшыня Каардынацыйнага камітэта «Гродзенская ініцыятыва» Сямён Домаш.**



- Кангрэс сабраў прадстаўнікоў усіх дэмакратычных сілаў краіны. Галоўным, канечне, была выпрацоўка агульнай пазіцыі да маючых адбыцца парламенцкіх выбараў. Гучалі розныя меркаванні, але па настроі залы адчувалася, што прысутныя супраць удзелу ў фарсе, які рыхтуе улада. Гэтыя настроі знайшлі сваё адлюстраванне ў канчатковай Заяве. Дэмакратычныя сілы на выбары не пойдуць, калі ўладай не будуць выкананы чатыры вядомыя ўмовы.

***- Паводле выступленняў, іншыя кіраўнікі партыяў, здаецца, хацелі б прыняць рашэнне пазней, не зважаючы на прынятыя кангрэсам дакументы...***

- Усякае можа здарыцца ў палітыцы. Але адназначна, што тады можна ставіць крыж на апазіцыі. Ад такой магчымай здрады беларускі дэмакратычны рух доўга не падымецца з каленяў, калі падымецца наогул. Але трэба спадзявацца на розум і развязлівасць палітыкаў. Спадзяюся, што Анатоль Лябедзька, Мікалай Статкевіч, Станіслаў Шушкевіч, Вінцук Вячорка, Аляксандр Бухвостаў, Яўген Лугін ды іншыя былі шчырымі ў сваіх выказваннях.

***- Якая асноўная думка панавала ў Вашым кароткім выступленні?***

- Я выказаў думку, што ў справу аб'яднання дэмакратычных сілаў у апошні час вялікі ўклад уносяць рэгіёны Беларусі, якія злучыліся ў траўні ў Каардынацыйнай Радзе «Рэгіянальная Беларусь». Сёння гэта значная ўплывовая сіла не толькі ў рэгіёнах. Дарэчы, кангрэс гэта прызнаў: прадстаўнікі рэгіёнаў уведзены ў Каардынацыйную Раду дэмакратычных сілаў краіны. Лічу, што гэта станоўчы момант у справе агульнай кансалідацыі.

***- На парадку дня стаіць пытанне аб правядзенні 29 ліпеня першай сесіі Усебеларускага з'езду. Кангрэс, дарэчы, ухваліў ініцыятыву творчай інтэлігенцыі па чго скліканні. Наколькі гэта магчыма?***

- Першапачатковая дата з'езду, як вядома, з чэрвеня была перанесена на больш позні час. Надалей адкладаць гэтае мерапрыемства нельга. Беларусі зараз як ніколі пагражае рэальная страта незалежнасці і інкарпарацыя яе ў склад Расеі. Трэба, каб беларуская і міжнародная грамадскасць яшчэ раз пачула рашучы і праўдзівы голас значнай часткі народа. Плануецца, што на парадак дня гэтай сесіі Усебеларускага з'езду будзе вынесена толькі адно пытанне - аб незалежнасці краіны.

***-Адразу ўзнікане пытанне пра легітымнасць з'езда. Наколькі дэлегаты будуць праваможнымі прымаць такія лёсавызначальныя дакументы?***

- Паўнамоцтвы нададуць дэлегатам людзі, якія абяруць сваіх прадстаўнікоў падчас правядзення сходаў грамадзянаў згодна прынятай арганізатарамі з'езду квоце. Агульнагарадскі сход плануецца правесці і ў Гродне. Пра дзень, месца і час яго правядзння грамадзяне будуць своечасова папавешчаны. Наш горад на з'ездзе павінны прадставіць звыш 20 пасланцоў.

**Інтэрв'ю правёў Антон Лабовіч**

# Канары толькі сьняцца...

**Сярэдзіна ліпеня - сэзон летніх адпачынкаў у самым разгары. Куды пакуюць чамаданы гарадзенцы? На Канары ці ў Анталію?**

Пётр Валадзько, начальнік гарадзкой падатковай інспэкцыі:

- Якія Канары! З нашымі заробкамі толькі сена касіць. Я за 50 гадоў свайго жыцьця ніводнага разу ў дом адпачынку ня зьездзіў. Вось і сёлета ў свой адпачынак на вёсцы ў бацькоў на адну карову сена накасіў. Мару на возеры рыбу палавіць - але «фазэнда» не пускае...

Мікалай Рабчук, намесьнік старшыні калгасу «Абухава»:

Што мне рабіць на Канарах? Я нават ня ведаю, дзе яны знаходзяцца. Разумееце, народжаны пояўзаць лятаць ня можа. Ды я й ня памятаю, калі апошні раз у адпачынку быў. Можа пасьля ўборкі ўраджаю атрымаецца паехаць пад Менск, у санаторый «Крыніца». А вось куды сапраўды хацеў бы, гэта ў ЗША - паглядзець на свабодны сьвет, дэмакратыю.

Аня Юрэвіч, Каралева прыгажосьці-2000:

- За перамогу ў конкурсе мне спрэзэнтавалі пуцёўку ў Гішпанію. Вельмі спадабалася. Я ўпершыню была на моры, наведала Барсэлёну. Бачыла сапраўдную карыду - бычка забілі, беднага, тарэадор не пацярпеў. Зараз сяджу ў хаце, час ад часу выезджаю на возера, наведваю канцэрты...

Юрась Мацко, мастак, каваль:

Я аднойчы ў Балгарыю зьездзіў, на Залатыя пяскі. Дык на трэці дзень воўкам выў. Аддаю перавагу актыўнаму адпачынку: з рыцарскім клюбам у Навагрудак на Фэст ездзіў, зараз на Грунвальд зьбіраюся. А ў жніўні - зь сям'ёй на байдарках на Браслаўскія азёры.



Знаёмцеся — Таня, Каця, Оля. Паўднёвы бераг возера Юбілейнага...

Уладзімір Сямёнаў, член цэнтральнага камітэту Партыі камуністаў Беларусі:

Раней, пры народнай уладзе, ездзіў зь сям'ёю на Чорнае мора, на Балтыку, Нарач. Зараз з маёй «вялікай» пенсіяй у 24 тысячы магу толькі на фазэндзе адпачываць.

**У гарадзенскім упраўленьні аховы здароўя лічаць, што адпачынак на Беларусі нічым ня горшы за адпачынак на Кіпры ці Італіі. Галоўны спэцыяліст па медыка-санітарнай экспэртызе й рэабілітацыі, Андрэй Саладоўнікаў, раіць гарадзенцам наведаць Браслаўскія азёры, Нарач ці Сьвіцязь - яны лічацца самымі экалягічна чыстымі на Беларусі.**

**Праўда, як нам паведамілі ў мясцовых турфірмах, патрапіць на беларускія курорты досыць складана: асноўную частку пуцёвак разьмяркоўваюць на прадпрыемствах, у розных ведамствах і калектывах. Затое гэтыя ж турфірмы прапануюць безьліч варыянтаў адпачынку за мяжой. Дванаццаць дзён у Балгарыі, Вэнгрыі, Чэхіі будуць каштаваць гарадзенцам 125 - 135 даляраў, Егіпэт -ад $270, Турцыя, Грэцыя, Кіпр, Туніс - $350 - 450. Італія, Нямеччына -каля $500, Францыя - $700. Тым, хто мае ў кішэні дзве штукі баксаў, фірма «Сакуб» прапануе нават экзатычныя Кубу й Ямайку.**

**Гарадзенскае бюро міжнароднага моладзевага турызму «Спутнік» завязе ў Адэсу ўсяго за 43 тысячы беларускіх рублёў і яшчэ за паўсотні нават тры разы на дзень пакорміць. Праўда прыбіральні там на вуліцы, а вада ў душы «награваецца ад сонца»...**

**Фірма «Інтакс» за 11 - 15 даляраў у дзень прапануе адпачынак на Аўгустоўскім канале. А гарадскія жыхары, якія сумуюць па вясковай экзотыцы, могуць замовіць сабе ў Польшчы ферму з сапраўднымі конямі.**

**Тыя ж, каму «заграніца толькі сніцца», бавяць свой вольны час на паўднёвым беразе Нёмана й на Юбілейным возеры. Дарэчы, гарадская санэпідэмстанцыя купацца там ня раіць: перавышаны паказчыкі кішэчнай палачкі. Акрамя таго, за апошні месяц у гарадзенскіх вадаёмах патанула 10 чалавек.**

Юлія Дарашкевіч

# Па праваслаўных мясьцінах

**З панядзелку распачнецца моладзевае паломніцтва па праваслаўных мясьцінах Гарадзеншчыны.**

Каля сарака чалавек гэтае незвычайнае вандроўкі наведаюць Скідаль, Дубна, Ваўкавыск, Сынкавічы і Жыровічы. Плянуецца, што большасьць шляху моладзь пройдзе пешшу - на гэта спатрэбіцца каля пяці дзён. У Зэльве будзе зарганізаваная вечарына, прысьвечаная Ларысе Геніюш.

Арганізатарам выступіла менскае праваслаўнае брацтва імя Кастуся Астрожскага.

Юлія Дарашкевіч

# Крыжовы ход да сьвятога месца

**У нядзелю адбыўся крыжовы ход ад Каложскай царквы да крыжа, устаноўленага на месцы заснавання царквы Усіх Беларускіх Сьвятых.**

Пасля літургіі ў Каложы шэсце на чале з Праваслеўным Арцеміем, епіскапам Гарадзенскім і Ваўкавыскім, рушыла да Уладзімірскай царквы, дзе да шэсця дадаліся вернікі і духавенства.

Роўна год таму на месцы ўстаноўкі крыжа ў раёне Вішнявец было вырашана пабудаваць царкву Усіх Беларускіх Сьвятых. Настаяцелем яшчэ не ўзведзенага храма стаў айцец Анатоль Ненартовіч. Ён правёў малебен, якім і скончыўся крыжовы ход.

Алена Сіневіч

# Даніэль падмануў гарадзенцаў

**Каля дзвюх тысяч гарадзенцаў, якія 6 ліпеня прыйшлі на канцэрт расейскага гурта «Hi-Fi» былі падманутыя арганізатарамі. «Hi-Fi» не прыехаў. Частку грошай за білеты гледачам сплацілі, а астатнія вяртаць, відавочна, ніхто не збіраецца.**

Канцэрт гурта «Hi-Fi» ў Гродне арганізавала менская фірма «Арт-цэнтр» і яе прадстаўнік са сцэнічным псеўданімам Даніэль.

Выступ гурта быў намечаны спачатку на 27 чэрвеня, пасля быў перанесены на 6 ліпеня. Білеты каштавалі ад 2 да 7 тысяч рублёў.

Гарадзенцы, якія прыйшлі ў пазначаны час на канцэрт, абсалютна не падазравалі, што становяцца ахвярамі чарговага ашуканства. Даніэль на той момант ужо ведаў, што «Hi-Fi» ў Гродна не будзе, аднак паведамляць пра гэта гледачам ён не збіраўся, думаў працачыць «на прастачка».

Канцэрт распачаў, як і планавалася, гурт «Бі-2», песні якога выкарыстаны ў фільме «Брат-II». Гарадзенцы задаволена адтанцоўвалі свае «кроўныя». Пасля выступу «Бі-2» на сцэну выйшаў Даніэль і слёзна папрасіў прабачэння, маўляў, «Hi-Fi» не прыйдзе. Музыкі затрымаліся недзе на гастролях у Канадзе.

Грошы, аддадзеныя за білеты, Даніэль паабяцаў выплаціць на працягу пяці дзён.

У аўтарак ПАГОНЯ пацікавілася ў супрацоўнікаў філармоніі, што выступала ў якасці суарганізатара канцэрту, ці выкананае гэтае абяцанне. Адказ быў кароткі - не. Усе грошы яшчэ не выплачаны. Больш таго, афера, якую пракруціў у Гродна «Арт-цэнтр», моцна ўдарыла і па самой філармоніі. Установа панесла вялікія фінансавыя страты і, як вынік, распачала судовае разбіральніцтва з менскай фірмай.

У сераду прадстаўнікі «Арт-цэнтру» павінны былі прыехаць у Гродна, каб вырашыць пытанне з вяртаннем грошай за білеты.

А канцэрты расейскіх зорак у Гродна будуць працягвацца. Ходзяць чуткі наконт прыезду Барыса Маісеева. Вось толькі ці пойдуць навучаныя гарадзенцы глядзець на расейскае «дзіва» - невядома.

Іван Паўлёнак

# Масалянская гісторыя, ці Размова толькі аб вадзе?

**Алег Зайцаў, жыхар вёскі Масаляны, што ў саўгасе «Берастаўіцкі» аднайменнага раёна, завітаў у рэдакцыю ПАГОНІ і распавёў пра сваё нялёгкае жыццё. Займаецца вырошчваннем гародніны. Арэндуе ў сельсавеце кавалак зямлі - 68 сотак. Праўда, прасіў у свой час гектар, згодна прэзідэнцкаму ўказанню, але мясцовая ўлада кіраўніка дзяржавы зразумела па-свойму, зямлі пашкадавала.**

**А тут яшчэ надарыўся канфлікт з дырэкцыяй саўгаса...**

Доўгая вясковая вуліца з дамамі абапал у канцы разбягаецца ў два бакі і, як рукамі, абдымае ніштаваты клін саўгаснага поля. Дом у Алега Зайцава - звычайная хата.

- Купілі нядаўна гэты прысядзібны ўчастак, - тлумачыць гаспадар. - Жытло маем у іншым месцы. А тут нешта накшталт летняга будана. Агародчык даглядаем, вырошчваем капусту, моркву, агуркі, сталовыя буракі, - усяго патроху.

У сярэдзіне пабудовы прахалодна, яшчэ ладам не ўпарадкавана. На падлозе кавалкі цэглы, гліна. Акурат пасярэдзіне пакоя ўзвышаецца новая печка. Зімой тут захоўваецца капуста ці яшчэ што з гародніны, тэмпература падтрымліваецца якраз для гэтага, а увесну тавар вязецца на рынак у Гродна. З гэтага рубля і жыве сям'я.

Алег паказвае свае «соткі» і тым часам паведамляе са сваёй пакуль што небагатай біяграфіі. Закончыў Жыровіцкі саўгастэхнікум, атрымаў спецыяльнасць інжынера-механіка. Тры гады адпрацаваў у саўгасе «Берастаўіцкі». Заробак не задавальняў. Калі пачуў, што дзяржава дазволіла выдзяляць грамадзянам да гектара зямлі, рызыкнуў, звольніўся з працы. Было гэта ў 1998 годзе. З зямлёй таксама напачатку не ўсё гладка атрымалася. Але неяк справіў дакументы. А на той кавалак некалькі гадоў запар не ступала нага чалавека, трэба было пачынаць акультурваць яе нанова.

Алег, відаць, чалавек з размахам. Спрабуе глядзець наперад. Пагэтаму распачаў будоўлю ўласнай майстэрні. На яе вялікія спадзяванні, бо вырошчванне гародніны ўсё болей становіцца стратным. Канкураваць прыходзіцца як з дробным уласнікам, дзяржаўнымі сельгаспрадпрыемствамі роднаснага кірунку, так і з польскім таварам. Пратрымацца цяпер надзвычай складана.

- Майму прыкладу паследавала яшчэ некалькі маладых сем'яў. На зямлі гібеюць, як і я. Яно можа было б і ператрываць, каб дырэкцыя саўгаса ставілася да нас палюдску, з павагай і разуменнем.

Канфлікт пачаўся сёлетняй засушлівай вясной і такім жа пачаткам лета. Узгарэліся жарсці, як той сухастойнік ад празмернай жарыні. Прычынай сталася вада, якую Алег Зайцаў і яго калегі выкарыстоўвалі для палівкі сваіх участкаў. У дырэкцыі раптам заўважылі, што прыватнікі-аднаасобнікі карыстаюцца саўгаснай вадой з пракладзенага ў вёсцы водапровада. Непарадак. За гэта трэба плаціць.

- А хіба мы супраць аплаты за карыстанне вадой? Але навошта адразу прымаць крутыя меры, забараняць калонкі? Тым болей тэрарызаваць жонку майго калегі Анатоля Дзяка. Нібыта знарок інжынер па працаёмкіх працэсах Анохін цікуе, калі мы ад'едзем на рынак у Гродна, з'яўляецца на падворак і пачынае пагражаць жанчыне: чаму не ставіце лічыльнік, зараз абрэжам ваду! Даводзіць чалавека і яе дзяцей да нярвовага зрыву. А сам тэхнічных умоваў на ўстаноўку лічыльніка не дае. А гэта яго абавязак!

Зразумела, што з Алегам такая «прафілактычная» гутарка бясследна для інжынера не прайшла б. Зайцаў - асоба, якая ведае сабе кошт і мае ўласнае меркаванне.

Увогуле, у мяне склалася думка, што апошняе з'яўляецца першапрычынай непрыязных адносінаў спецыялістаў дырэкцыі з няўрымслівым былым саўгасным інжынерам. Хто ж сёння любіць крытыку, а яшчэ болей тых, хто ўголас гаворыць пра недахопы ў гаспадарцы? Напрыклад, кінуты ў полі трактар, якога гадамі есць іржа. Дарэчы, якраз такі я асабіста бачыў за ўчасткам Алега Зайцава. Стаіць, небарака, панурыўшыся ў зямлю, і даўно страціў надзею, што нехта дбайны ўзгадае пра яго. А той механізатар, які сядзеў калісьці за рычагамі кіравання гэтага трактара, памёр. Чалавека пахавалі, а пра агрэгат забыліся. Бачыў таксама, як намерана пераліваецца праз край водананпорнай башні вада, з-за якой разгарэліся нежартоўныя вытлумачэнні адносінаў.

Алег і яго калегі-аднаасобнікі набылі прылады ўліку карыстання вадой. Зразумела, ва ўстаноўленыя дырэкцыяй саўгаса тэрміны не ўправіліся. Аб чым адразу ж пісьмова паведамілі: за адведзеныя шэсць дзён выканаць прадпісанне немагчыма. А на гэты выпадак саўгас прадугледзеў адключэнне вады і спагнанне штрафу з вінаватых. Акрамя таго за травень саўгасная бухгалтэрыя налічыла Алегу Зайцаву ажно 4.290 рублёў. Калі ён пайшоў разбірацца і папрасіў абгрунтаваць лічбу, выявілася, што сума гэтая за два месяцы, а не за адзін.

І яшчэ адна акалічнасць звяртае на сябе ўвагу ў гэтай справе. Чаму саўгаснае кіраўніцтва распальвае варожасць паміж людзьмі, якія вырашылі свой лёс будаваць уласнымі рукамі, і тымі, хто паранейшаму працуе ў дзяржаўным саўгасе? Як інакш растлумачыць дзеянні таго ж спадара інжынера Анохіна, які заявіў у вёсцы Масаляны, што абрэжа ваду ўсім, бо Зайцаў і Дзяк не ставяць лічыльнікі? Разбірайцеся, маўляў, самі, паўплывайце. Сваю пагрозу здзейсніў і 16 чэрвеня заварыў люк водаправоднага калодзежу. У выніку скаргу, адрасаваную Алегам Зайцавым у Берастаўіцкі райвыканкам, падпісалі ўсе вяскоўцы, якіх найперш тычылася праблема.

Падчас паездкі ў Масаляны да нас падыходзілі людзі, распавядалі пра саўгаснае жыццё-быццё, называлі мізэрныя заробкі шафёраў (у іншыя месяцы выходзіла ўсяго па сем-восем тысяч рублёў), не змаўчалі пра шматлікія ўпушчэнні з боку дырэкцыі саўгаса, прыводзілі факты.

На жаль, з дырэктарам Дзмітрыем Гольцам сустрэцца не давялося. У канторы паведамілі, што па пільных справах з'ехаў у вобласць і «сёння не будзе». Каб мець уяўленне пра саўгас, пагартаў падшыўку раённай «Берастаўіцкай газеты». Гэта адзіны саўгас у раёне. Справы ідуць тут зусім някепска, калі верыць змешчаным допісам. Не горш, чым у іншых вядзецца нарыхтоўка кармоў. За пяць месяцаў бягучага года надоена па 1.567 кілаграмаў малака ад каровы, што вышэй сярэднераённага паказчыка. Летась ад кожнай каровы было атрымана 3.606 кілаграмаў малака. Добра арганізаваны закуп малака ад насельніцтва. Не благія сярэднесутачныя прывагі бычынай рагатай жывёлы. Саўгас «Берастаўіцкі» - адзіны ў раёне, які летась на 71 тону павялічыў валавы збор зерня. У мінулым годзе ўраджайнасць склала 45,3 цэнтнера збожжа з гектара. Гаспадарка таксама займаецца вырошчваннем гародніны. Яе рэнтабельнасць летась склала 114 працэнтаў.

Высокія рубяжы былі намечаны і на 2000 год: атрымаць збожжавых па 45 цэнтнераў з гектара, бульбы - 230, гародніны - 210. Надой малака на карову давесці да 3.650 кілаграмаў.

Пра ўсё гэта гаварыў у сваім інтэрв'ю газеце сам Дзмітрый Голец. Але за лічбамі, як гэта бывае ў нашых кіраўнікоў аграрнага сектару, зусім не заўважыў людзей.

Антон Лабовіч

**Ад рэдакцыі:** ПАГОНЯ будзе ўважліва сачыць за развіцём падзеяў у Масалянах.Мы абавязкова паведамім у бліжэйшых нумарах, чым скончылася процістаянне фермера і дырэктара саўгаса

# Шасцігодка духоўнай дэградацыі

**Шасцігодка А.Лукашэнкі адбіваецца адмоўна не толькі на эканоміцы, знешняй і ўнутранай палітыцы, але і ў духоўнай сферы. У нас у большасці пішуць пра вынішчэнне мовы, скажэнне гісторыі, але вельмі рэдка кранаюць праблемы, якія хвалююць чалавека ў паўсядзённым жыцці. Між тым, з дробязяў штодзённага існавання кожнага чалавека складваецца агульнае самаадчуванне грамадства, з дробных рэакцыяў і дачыненняў паміж людзьмі складваецца агульны светапогляд народа, як цяпер кажуць, менталітэт.**

**Гэтыя шэсць гадоў сталі заняпадам беларускай агульначалавечай духоўнасці.**




## Хамства

Столькі недалэнгаў на кіраўнічых пасадах Беларусь не ведала з часоў бальшавіцкіх камісараў, камбедаў і калектывізацыі. Адна іх частка - гэта былая наменклатура, у большасці пенсійнага ўзросту, якая жыве ўспамінамі пра камсамольскае юнацтва і партыйную дысцыпліну. Яна проста займае месцы, не дае хады маладым. Але і маладыя падбіраюцца, асабліва ў «вертыкаль», зусім не паводле свайго прафесіяналізму. Кадры прызначаюцца па змешаным армейска-вертухайскім прынцыпе: каб выконвалі загады і былі «гаспадарамі» («хозяин» зоны). Дзяржаўны апарат недзеяздольны, безыніцыятыўны, пустаслоўны, не кантралюе сітуацыю, цягнецца ў хвасце падзеяў.

## Свавольства

Спачатку законы парушаў адзін чалавек, а па ягонаму загаду - ягоныя міністры. Потым - міністры, а па іхняму загаду - абласныя начальнікі. Потым апошнія, і па іх загаду - раённыя кіраўнікі. Потым тыя, і па іх загаду - старшыні калгасаў, сельсаветаў і ўчастковыя інспектары. Сёння законы парушаюць усе, па загаду і без яго, у інтарэсах улады і ў сваіх асабістых, ад самадурства і дзеля карысці. Управы на чыноўнікаў няма. Дамагчыся справядлівасці простаму чалавеку амаль немагчыма.

## Страх

Змаганне ўлады з іншадумствам выклікала ўсеагульны страх у грамадстве. Рабочы баіцца звальнення, калгаснік - таго, што не дадуць тэхніку, каб пасадзіць бульбу. Кіраўнікі прадпрыемстваў баяцца крымінальнага пераследу за гаспадарчую дзейнасць. Прадпрымальнікі баяцца знішчаючых бізнес праверак з боку фіскальных органаў. «Сілавікі» баяцца быць выкінутымі са службы без выслугі і пенсіі. Чыноўнікі і клеркі баяцца абвінавачванняў у нелаяльнасці, бо тады не змогуць знайсці працы. Творчыя работнікі баяцца пісаць, маляваць, спяваць і гаварыць. Людзей агарнула з усіх бакоў апатыя, бязвер'е, лянота.

## Подласць

У такіх умовах з усіх шчылінаў павылазіла разнастайная шалупень. Па радыё, TV, ва ўрадавых газетах вяшчаюць прымітыўныя камісары ды агенты ўплыву пра пагрозу з Захаду, сіяніскую змову, чысціню славянскай расы, варожае рыла апазіцыі, другаснасць беларускай культуры, сквапнасць еўра-амерыканцаў, прадажнасць няўрадавай прэсы. Кіраўніцтву краіны падкідваюць шчырую лухту кшталту «восі Менск-Масква-Пекін», адзіную мытную прастору з Таджыкістанам, саюзную дзяржаву з Югаславіяй. Па вуліцах шпацыруюць рускія фашысты. Нікчэмнасці шальмуюць самога Васіля Быкава, сумленных навукоўцаў, прафесіяналаў менеджменту, каб пралезці «наверх». Дзякуючы намаганням гэтай брыдоты з беларусаў пачынаюць смяяцца, нібы з чукчаў.

## Гвалт

Палітычнае, эканамічнае, ідэалагічнае насілле зрабілася асноўным сродкам вырашэння ўсіх праблемаў, усіх грамадскіх супярэчнасцяў. Прадстаўнічай улады не існуе. З'явіліся дзесяткі палітычных вязняў. Пераследуюцца няўрадавыя СМІ. Перапісваюцца падручнікі часоў незалежнасці. Знікаюць дзеячы апазіцыі. Фактычна забароненыя мітынгі, шэсці, страйкі, пікеты. Праводзяцца масавыя аблавы на пратэстуючых грамадзянаў. Наладжана аператыўнае сачэнне за іншадумцамі. Праводзяцца перарэгістрацыі партыяў, прафсаюзаў, прадпрыемстваў. Паўсюдна бадзяюцца дзяржаўныя кантралёры, інспектары, аператыўнікі міліцыі, гэбэ (восем спецслужбаў!) з адзінай мэтаю каго-небудзь, невядома за што, аштрафаваць, пасадзіць, апісаць маёмасць. Насілле, аднак, не вырашае ніякіх праблемаў; праблемы прымнажаюцца, знешне нябачныя, каб потым выбухнуць і змесці дзяржаўна-грамадскі лад краіны.

## Двудушнасць

Раптам усе сталі скрытнымі, няшчырымі і двудушнымі. Рабочы клас халтурыць, падкрадае і ахоўвае гэтую таямніцу. Камерсанты махлююць з падаткамі і таксама сакрэтнічаюць. Інтэлігенцыя гэтаксама хавае прыработкі ды прыватныя «ўзнагароды за працу». Чыноўнікі арганізавалі сапраўдны хабарніцкі бізнес, гандаль пасадамі, ліцэнзіямі, датацыямі, ільготамі, юрыдычнымі адрасамі. На публіцы яны клянуцца аддаць жыццё за народ і прэзідэнта, а паміж сабою кпяць з прэзідэнта і грэбуюць народам. Прэзідэнт корчыць з сябе «свайго хлопца», але спецслужбы ўсюды панатыкалі «жучкоў», ніхто сёння не вырашае сур'ёзных пытанняў у кабінеце або па тэлефоне. З'явілася новая прафесія: «доктар Гебельс», някепска аплочваецца. Канкурэнтаў падстаўляюць, з былымі паплечнікамі распраўляюцца. Дзяржава пераняла ў блатных спосаб арганізацыі ды кіравання, у камуністаў - індустрыю хлусні і ўзбагаціла ўсё драпежніцкім раскраданнем агульнанароднай уласнасці.

Гісторыя сведчыць, што рэвалюцыі ды іншыя грунтоўныя змены дзяржаўнага ладу адбываюцца не з прычыны цяжкіх матэрыяльных нястачаў, а з-за немагчымасці прыстасаваць натуральную духоўнасць чалавека да штучна створаных дзяржавай умоваў існавання. З гэтага вынікае ўрок - жыві сам, давай жыць іншым. Але ўлады за шэсць гадоў так і не зразумелі гэтай простай ісціны. Што і абумоўлівае іх крах.

# «Очищение» судзіць узурпатара...

**Нейкі час у Гродне напаўлегальна распаўсюджваецца ўлётка на 12-ці старонках, якая называецца «Адкрыты суд над узурпаваўшым уладу грамадзянінам А.Р.Лукашэнкам. Суд Народа - Суд Божы!» Падпісана яна, як паведамляецца на апошняй старонцы, «былымі прыхільнікамі А.Лукашэнкі з саюза «Очищение» і асабіста старшынём саюза прафесарам Барысам Барыхіным (памёр некалькі тыдняў таму).**

Што пішуць людзі, якія нямала намаганняў паклалі дзеля руху А.Лукашэнкі ў прэзідэнцкае крэсла? У сваёй крытыцы былога куміра яны заходзяць так далёка, што карыстаюцца такімі паняццямі, як «крымінальнік», «адпеты злачынца», «крымінальная дзяржава самаўладдзя», «дрынавая эканоміка» і г.д. Што ж тычыцца сутнасці, то нічога новага былыя паплечнікі А.Лукашэнкі не паведамляюць, за выключэннем хіба таго факту, што гарадзенскі мясакамбінат усё мяса расходуе на пастаўкі ў рэзідэнцыю А.Лукашэнкі, а жыхары горада ядуць «здыхляціну».

Асабліва аўтары ўлёткі агаворваюць, чаму яны «ўтыкаюць яму нож у спіну» (як любіць у такіх выпадках казаць іх былы кумір). Бо «ён набывае сабе новых сяброў са злачынным і фашысцкім мысленнем», а старых сябрукоў перасадзіў у турмы. Напрыканцы ўлёткі змяшчаецца заява пра тое, што трымальнік улёткі набывае права на грамадзянскае непадпарадкаванне ўладзе, суду, праваахоўчым органам і (чамусьці) судовым прыставам (якіх у нас няма).

З усіх гарадзенскіх «очищенцев» добра ўладкаваўся толькі палкоўнік Посахаў. «Аперацыя скончана, забудзьцеся», - нібы сказалі астатнім. А яны ўсё яшчэ не зразумелі, крыўдуюць, выкрываюць, нейкі суд замыслілі. У мужнасці ім не адмовіш, пытанне не ў гэтым. За каго яны будуць агітаваць наступным разам?

**Сяргей Самасей**

# 8-ая федэральная акруга?

**Беларусь зараз больш кантралюецца Крамлём, чым многія суб'екты Расейскай Федэрацыі, асабліва нацыянальныя рэспублікі ды некаторыя краі, «і Маскве ў пэўным сэнсе прасцей мець справу з Лукашэнкам, чым з Наздраценкам, Башкортастанам або Татарстанам, не кажучы ўжо пра Чачню». Такое меркаванне віцэ-прэзідэнт Беларускага саюза прадпрымальнікаў (БСП) Аляксандр Патупа выказаў 11 ліпеня, каментуючы нядаўняе пасланне Уладзіміра Пуціна Федэральнаму сходу Расеі.**

Беларускі палітолаг звязвае з гэтай абставінай і той факт, што ў вялікім пасланні прэзідэнта Расеі няма ніводнага ўзгадвання пра Саюз Беларусі і Расеі. Калі рэальна глядзець на рэчы, сказаў А.Патупа, то «Беларусь у эканамічным плане дастаткова моцна кантралюецца Масквой», паколькі «кантроль над Беларуссю і зараз знаходзіцца на ўзроўні 8-ай федэральнай акругі». Аляксандр Патупа лічыць, што «беларусам няма куды падзецца», паколькі «таго мільярда даляраў, якога ім, умоўна кажучы, не хапала раней на камунальныя паслугі, ежу і лячэнне, не хапае і зараз», а, значыць, «сітуацыя кантралюемая, і вялікай праблемы для Пуціна няма, што і было прадэманстравана ў ягонай прамове», дзе пра Беларусь не было сказана ані слова. Зыходзячы з таго, што ў Пуціна выклікае прыкрасць некаторая «непрадказальнасць, некантралюемасць беларускага лідара», палітолаг прыходзіць да высновы, што ў бліжэйшы час можна чакаць нейкіх контрдзеянняў з расейскага боку.

# На Кубе «чалавечы патэнцыял» развіты лепш, чым у Беларусі

**Паводле дадзеных ААН Беларусь уваходзіць у тройку сусветных лідараў па колькасці зняволеных - 477 чалавек на 100 тысяч насельнікаў. На першым месцы Расея - 580 зняволеных, на другім - Злучаныя Штаты (554). Гэтыя факты ўзятыя з Глабальнай справаздачы пра чалавечае развіццё за 2000 год, прэзентацыя якой адбылася 29 чэрвеня ў большасці краінах свету, у тым ліку і ў нашай краіне.**

ААН вылучае задачу развіцця правоў чалавека як асноўную ў сваёй працы ў наступным стагоддзі. Эксперты ААН адзначаюць, што для ўстойлівага развіцця любой краіны неабходна ўлічваць у першую чаргу інтарэсы кожнага канкрэтнага чалавека (а не так, як у нас - усе чыноўнікі «служаць народу», а канкрэтнаму чалавеку праўды не дабіцца). Даклад прыводзіць шмат лічбаў, якія характарызуюць становішча з правамі чалавека як у Беларусі, так і ў іншых краінах. Вялікая ўвага надаецца судовай і праваахоўнай сістэме.

Напрыклад, па колькасці суддзяў на 100 тысяч чалавек Беларусь мае паказчык, блізкі да сярэдняга (10) - 11 суддзяў. А вось у Бангладэш з-за недахопу суддзяў назапашваецца больш за 5000 неразгледжаных справаў штогод, у Індыі - болей як 2000. Сярэдні працяг папярэдняга зняволення да суда складае 60 тыдняў у Мексіцы, 40 тыдняў - у Венгрыі і 30 тыдняў - у Чэхіі. Па Беларусі дадзеных няма, але імпірычна можна ўказаць на перыяд у 3-5 месяцы, зыходзячы з працэсуальнага заканадаўства і судова-следчай практыкі. Даклад адзначае, што «толькі адны законы не гарантуюць абарону правоў чалавека, неабходныя адпаведныя структуры, традыцыі і спрыяльны эканамічны клімат».

Адносна апошняга: адпаведна з «індэксам развіцця чалавечага патэнцыялу» (ІРЧП), куды ўваходзіць працягласць жыцця, узровень адукацыі і рэальны даход, Беларусь займае 57-е месца (адразу пасля Кубы). З краінаў былога СССР вышэй толькі Літва (52-е месца) і Эстонія (46-е месца). Першая дзесятка выглядае наступным чынам: Канада, Нарвегія, ЗША, Аўстралія, Ісландыя, Швецыя, Бельгія, Нідэрланды, Японія, Вялікабрытанія. Расея - на 62-м месцы, Украіна - на 78-м. Цікава, што згодна з класіфікацыяй ІРЧП, ніжэй за Беларусь знаходзіцца Саудаўская Аравія, дзе, як вядома, усе мільянеры. Але, відаць, дрэнна адукаваныя і мала жывуць. Напэўна, што свой уплыў зрабілі дадатковыя крытэрыі ІРЧП - удзел людзей ва ўпраўленні краінай і магчымасці сацыяльнага і прафесійнага росту. Беларусь уваходзіць у лік 17 краінаў свету, у якіх да 2015 года насельніцтва зменшыцца. Нягледзячы на нізкі ўзровень смяротнасці немаўлятаў (22 выпадкі на 1000 родаў), Беларусь з'яўляецца адзінай краінай у свеце, дзе гэты паказчык не зменшыўся з 1970 года. Дзве краіны, Арменія і Ірак, дапусцілі павелічэнне дзіцячай смяротнасці падчас родаў. «Эканамічны рост не заўжды вядзе да паляпшэння становішча насельніцтва. Галоўнай мэтаю развіцця выступае рост дабрабыту кожнага чалавека,» - гаворыцца ў дакладзе. У нас жа, на жаль, паказчыкі эканомікі - асобна, дабрабыт людзей - асобна. Усё, як у славутым 1990-м годзе...

Упершыню ў гісторыі чалавецтва большая частка краінаў свету жыве ва ўмовах дэмакратыі. За апошнія 120 гадоў было ліквідаванае аднапартыйнае ці мілітарысцкае кіраванне больш як у 100 дзяржавах. Аднак, дэмакратычна абраная большасць можа сціснуць меншасць. Як станоўчы прыклад барацьбы з гэтай тэндэнцыяй падаецца прыклад Паўднёвай Афрыкі. Прэзідэнт Нэльсан Мандэла пасля першых свабодных выбараў увёў у склад урада аднаго са славутых дзеячаў апазіцыі, хаця абсалютная большасць належала Афрыканскаму нацыянальнаму кангрэсу. Нашым бы кіраўнікам браць прыклад з Паўднёвай Афрыкі. Адных толькі выбараў недастаткова для забеспячэння дэмакратыі. Неабходны сталы ўдзел грамадзянаў у кіраванні краінай, абарона правоў меншасцяў, рэальны падзел уладаў і адказнасць дзяржавы перад грамадствам.

У дакладзе ААН падаюцца «глабальныя факты жыцця»:

1) сукупны аб'ём багацця 200 самых багатых людзей свету дасягнуў у 1999 годзе аднаго трыльёна даляраў ЗША; сукупны аб'ём даходаў 582 мільёнаў чалавек з 43 найменш развітых краінаў складае 146 мільярдаў даляраў ЗША;

2) за мінулае дзесяцігоддзе ва ўсім свеце падчас грамадзянскіх войнаў загінула пяць мільёнаў чалавек;

3) штодзённа, у асноўным, ад хваробаў, што не паддаюцца лячэнню, памірае больш як 30 000 дзяцей;

4) штогод ад інфекцыйных хваробаў памірае амаль 18 мільёнаў чалавек;

5) 100 мільёнаў дзяцей жывуць і працуюць на вуліцах;

6) у свеце налічваецца болей за 10 мільёнаў уцекачоў і пяць мільёнаў унутрана перамешчаных асобаў;

7) у 1999 годзе падчас выканання задання было забіта каля 90 журналістаў;

8) кожная трэцяя жанчына зведвае гвалт у асабістым жыцці;

9) у парламентах свету жанчыны займаюць толькі 14 працэнтаў месцаў;

10) у выніку аперацыяў на жаночых геніталіях засталіся ў той ці іншай ступені скалечанымі ад 85 да 115 мільёнаў жанчын і дзяўчынак.

**Міхась Капялюш**




## ПЯРЭСТЫ КУТ

# Усе - на Басовішча - 2000!

**14-15 ліпеня ў Гарадку недалёка ад Беластоку (Рэспубліка Польшча) адбудзецца фестываль «Басовішча-2000».**

У першы дзень пройдзе конкурс маладых беларускіх і польскіх гуртоў, якія спяваюць па-беларуску, а ў другі дзень выступяць пераможцы і госці: «NRM», «Уліс», «Крама», «Зьніч», «Мясцовы час», «Exist» (Беларусь), «Acid Drinkers» (Польшча). Фестываль праходзіць на адкрытым паветры, бясплатна - заплаціць вам трэба толькі за месца для намёта. Гароджня на гэтым фестывале будзе прадстаўлена наступнымі гуртамі: «Твар» (будзе спяваць у конкурсе), «Кальян» і «Deviation» (будуць выступаць як пераможцы пазамінулагодняга і мінулагодняга фестывалю). Усіх сардэчна запрашаем!

# Вандроўка па «невядомай» Беларусі

**8 ліпеня 2000 года згуртаваньне моладзі «Эўрапейскі шлях» зладзіла для пераможцаў віктарыны «Шоў беларушчыны» й сябраў Цянянскай рады МФ файную экскурсію па паўночна-заходняй Беларусі.**

Сьпярша ўдзельнікі выправы наведалі мястэчка Вішнева (з праездам праз Валожын), дзе спыніліся каля магілы беларускай паэтэсы Канстанцыі Буйло й папрысутнічалі на імшы, якую праводзіў ксёндз Уладзіслаў Чарняўскі ў мясцовым касьцёле (XVI стагодзьдзе, раньняе барока).

Затым шлях экскурсіі праходзіў цераз Дзесятнікі і Гальшаны (дзе, на жаль, ізноў не спыняліся) да Ашмянаў. Там моладзь вітаў велічны, нібыта падвешаны ў паветры, касьцёл, пабудаваны ў стылі віленскага нэабарока.

Потым шлях ішоў у м.Гудагай, дзе моладзь наведала драўляны й вельмі ўтульны касьцёл кармэлітаў, пабудаваны ў форме каўчэгу ў XIX стагодзьдзі. У Астраўцы, пасьля агляду дамініканскага касьцёлу й помніку Восіпу Гашкевічу, удзельнікі экскурсіі наведалі выставу яшчэ зусім маладога (16 гадоў), але таленавітага мясцовага мастака Алега Базылевіча.

У м.Малі экскурсанты мелі мажлівасць агледзець экспазыцыю ў мясцовай бібліятэцы, прысьвечаную першаму консулу Расейскай Імпэрыі ў Японіі Восіпу Гашкевічу. Апошнія гады свайго жыцьця ён правёў у м.Малі ў сваім маёнтку, ад якога ўжо нічога не засталося, акрамя прысядзібных ліпаў.

У Варнянах моладзь захаплялася велічнасцю касьцёла, пабудаванага ў стылі позьняга віленскага барока, і назірала праявы мясцовай саўковасьці ў выглядзе помніка Чапаеву й крамы «Віно-водка», што суседнічаюць з касьцёлам.

Пасьля экскурсія прагрувалася ў вёсцы Трокенікі, дзе моладзь наведала маёнтак мастака Богуша Шышкі й прыватны музэй пудзілаў жывёлаў і птушак краю, які заснаваў мясцовы паляўнічы Слава Зьмітровіч. Шмат уражаньняў пакінуў таксама 500-гадовы дуб, які стаіць побач з маёнткам на ўскрайку тэктанічнага разлому зямной паверхні (глыбінёю каля 30 м), што ўтварыўся тут падчас землятрусу 1905 года (моцай 5-6 балаў).

Потым моладзь завезлі ў м.Міхалішкі, дзе месьціцца ўнікальны касьцёл аўгусьцінцаў XVII стагодзьдзя, пабудаваны ў барочным стылі, які амаль аўтэнтычна захаваў сваю веліч і нутраное ўбранства да нашых часоў. У моцным захапленьні прыгажосьцю храма наведвальнікі выканалі гімн «Магутны Божа», што сапраўды надало мерапрыемству добрай урачыстасьці.

І, нарэшце, цудоўным завершаньнем 14-гадзіннай экскурсіі стала наведваньне велічнага, пабудаванага ў гатычным стылі ў XIX стагодзьдзі, вышынёю ў 64 м (!) - парафіяльнага касьцёла ў Гервятах, дзе ўражаную моладзь сустрэў ксёндз Леанід. Ён паказаў наведвальнікам шмат рэдкіх дрэваў і кустоў, якія ўтвараюць мінісад вакол касьцёлу. Як высьветлілася, ксёндз Леанід захапляецца батанікай і марыць стварыць у будучыні «райскі» сад вакол касьцёлу.

На разьвітаньне ўдзельнікі выправы зрабілі ўнёсак у чынную справу ксёндза Леаніда - пасадзілі два дрэўцы, адмыслова прывезеныя зь Менску. Потым, праслухаўшы некалькі партыяў на аргане, якія выканаў Аляксей Фралоў, моладзь ад'ехала дахаты.

«Невядомая» Беларусь для яшчэ аднoй групы моладзі зрабілася трохі бліжэй.

**Янка Цітовіч**

# «Маскаль» на Купальлі

**З 8-га на 9-е ліпеня моладзь Горадні ладзіла «Купальле». Сьвята праходзіла на беразе Нёмана, недалёка ад санаторыя «Купалінка».**

Вялізнае вогнішча, вянкі на галовах удзельнікаў ды нейкая стылізаваная лялька - вось што характарызавала гэтае Купальле. Пазьней некаторыя ўдзельнікі сьвята назавуць гэтую ляльку - хто Далібогам, а некаторыя дасьціпныя - «маскалём».

Распачалося сьвята са сьпяваньня купальскіх песень, у якім моладзі дапамагалі прадстаўнікі хору «Бацькаўшчына». Апоўначы маладыя людзі пабеглі шукаць папараць-кветку. І што было дзіўным - знайшлі яе два хлопцы. Былі таксама і скокі праз вогнішча, і сьпяваньне песень пад гітару ды шмат чаго іншага .

Перашкодаю сьвята стаўся дождж, які распачаўся амаль што адразу пасьля апоўначы ды ліў усю ноч. Аднак самыя цярплівыя а 5-й гадзіне раніцы пачалі пускаць па Нёману вянкі са зьнічкамі.

**А.Мялешка**

# Новая кніга Кастуся Тарасава

**Бліжэйшым часам рыхтуецца выданне аповесці Кастуся Тарасава «Апошняе каханне князя Міндоўга».**

Палова XIII-га стагоддзя. Цяжкая, але і самая значная гадзіна беларускай мінуўшчыны.

На заходніх межах пачынае наступ Тэўтонскі ордэн, з усходу пагражае татарская арда. Небяспека патрабавала стварэння моцнай беларуска-літоўскай дзяржавы з цэнтралізаванай уладай. На чале аб'яднання зямель стаў Наваградак. Запрошаны сюды на княжанне Міндоўг пачынае пашыраць абшар дзяржавы - праз захопы, гвалт, вынішчэнне дробных князёў. Яму процідзейнічаюць галіцка-валынскія князі, крыжакі, мазуры, літоўскія сваякі.

За 15 год Міндоўг здолеў перамагчы ўсіх сваіх супраціўнікаў і надаць Наваградскай дзяржаве нязломную моц. Зайздрасць князёў, змовы, бясконцыя войны, паходы, наезды, штодзённая рызыка - гэта тая атмасфера, у якой праходзіць жыццё Міндоўга і да якога ён рыхтуе сваіх падлеткаў-сыноў. Смерць жонкі пакідае яго ў адзіноце. Запалены новым каханнем, ён, 60-гадовы, разбурае сям'ю свайго пляменніка, нальшанскага князя Даўмонта. Жарсці, якія звязалі гэтых людзей, заканчваюцца крывавай трагедыяй вынішчэння ўсяго рода Міндоўга. Шэраг бязлітасных крывавай разні за ўладу паміж рашучымі, жорсткімі, моцнымі князямі адкрывае шматвяковую гісторыю Вялікага княства Літоўскага.

Запіс жадаючых атрымаць гэтую кнігу праводзіцца ў сядзібе ТБМ па адрасе: 220005, г.Менск, вул.-Румянцава, 13, тэл./факс 284-85-11. Кніга павінна з'явіцца на свет у верасні-кастрычніку гэтага года.

Аб'ём кніжнага выдання - 160-170 старонак. Вокладка шматколерная.

**Сакратарыят ТБМ**



1. Старажытны беларускі народны духавы музычны інструмент. 2. Стыль у еўрапейскім мастацтве канца XVI - сярэдзіны XVIII стагоддзяў, у якім пабудаваны касцёл езуітаў у Нясвіжы. 3. Даўні асноўны галаўны ўбор замужных жанчын на Беларусі. 4. Духавы мушткоковы музычны інструмент. 5. Прымітыўная цяглавая прылада для рыхлення глебы і загортвання ў яе насення. 6. Вёска ў Магілёўскім раёне, дзе ўзведзена мемарыяльная капліца ў гонар 100-годдзя перамогі рускіх войскаў у Айчыннай вайне 1812 года. 7. Вёска ў Шчучынскім раёне, дзе пабудавана царква-крэпасць - помнік архітэктуры пачатку XVI стагоддзя. 8. Узорысты выраб для ўпрыгожвання жылога інтэр'ера. 9. Жалезная або стальная прылада, якою высякалі агонь з крэменю. 10. Колішняя вёска ў Лагойскім раёне, дзе ўзведзены мемарыяльны комплекс на ўшанаванне памяці жыхароў, якіх нямецка-фашысцкія захопнікі спалілі тут у 1944 годзе. 11. Беларуская паэтэса-рэвалюцыянерка, мемарыяльная дошка якой устаноўлена ў Менску.

**Адказы на галаваломку, змешчаную ў N24 (471):**

1. Калёсы. 2. Валюта. 3. Казлоў. 4. Даёнка. 5. Панцыр. 6. Гарсэр. 7. Кароль. 8. Паплаў.

## ТЭСТ

# Расслабся - і атрымай задавальненне

З цягам часу мы, на жаль, страчваем лепшыя рысы характару. І гэта адмоўна адбіваецца на нашым сексуальным жыцці. Наколькі ж Вы захавалі здольнасць да сапраўднага, шчырага, гарачага і рамантычнага кахання? Адказы на пытанні тэсту ацэньвайце наступным чынам: 4 балы - калі цалкам згодная(-ы) з напісаным; 3 - калі згодная(-ы) часткова; 2 - калі не згодная(-ы); 1 - калі не ведаеце, што адказаць.

1. Я займаюся сексам з задавальненнем.
2. Я заўсёды адчуваю, што думае і адчувае мой партнёр(-ка).
3. Я лёгка магу заплакаць, калі мяне пакрыўдзяць.
4. Я часта смяюся.
5. Людзям падабаюцца стасункі са мною.
6. Я з задавальненнем магу дакранацца да іншых людзей, магу абняць.
7. Мне падабаюцца людзі, падобныя да мяне.
8. Я люблю дзяцей.
9. Я заўсёды думаю, як унесці разнастайнасць у сексуальнае жыццё і рэалізаваць свае жаданні найлепшым чынам.
10. Я люблю жывёлаў.
11. Мне заўжды цікава, чаму так ці інакш нешта адбылося ў маім эратычным сне.
12. Я люблю спяваць і танцаваць.
13. У сексе мяне цікавяць самыя розныя позы і сітуацыі.
14. Часта ў мяне бываюць сексуальныя фантазіі, якія мне надзвычай падабаюцца.
15. У мяне добра развіта пачуццё гумару.
16. Мне падабаецца рэалізоўваць у сексе ўсё новыя і новыя ідэі.
17. Я часта адчуваю сябе шчаслівым і задаволеным жыццём чалавекам.
18. Мяне стымулююць



змены і рызыка.

19. У мяне ёсць такі чалавек, з якім я магу падзяліцца сваімі марамі і страхамі.
20. Я ведаю, як атрымаць задавальненне.

**Вынікі**

Калі Вы набралі **ад 60 да 80 балаў**, значыць з сексуальным жыццём у Вас поўны парадак! Вы захавалі ў сабе неверагодную энергію, свежасць пачуццяў і вастрыню адчуванняў.

**Ад 40 да 50 балаў.** Па дарозе да сталасці Вы прынеслі ў ахвяру некаторыя важныя якасці натуры. Дзелавыя праблемы і стрэсы знізілі Вашу прагу да эротыкі. Расслабцеся, паспрабуйце вярнуць лёгкасць і вастрыню пачуццяў.

**25 балаў і меней.** Надышоў час усур'ёз задумацца над сваім сексуальным жыццём. Годзе паглыбляцца ў дзелавыя і бытавыя праблемы! Падумайце пра задавальненні, якіх Вы пазбаўленая(-ы)!

Калі Вашыя вынікі супадаюць з вынікамі партнёра(-кі) ва ўказаным дыяпазоне, Вы зразумееце, як дасягнуць дасканаласці ў інтымных адносінах. Калі не супадаюць, то ўбачыце, як «падцягнуць» яго (яе) да свайго ўзроўню альбо самой(-аму) падняцца на п'едэстал кахання.

## АНЕКДОТ

Ноч, іду па вуліцы. Бачу - кампанія падлеткаў. Падыходжу, кажу: «Хлопцы, закурыць не будзе?» Ляжу. Куру.

***

Псіхіятр супакойвае пацыентку:

- Вы кажаце, што міма Вашага акна ўвесь час ездзяць грузавікі, і кіроўцы заглядаюць у Вашу спальню? Гэта яшчэ не значыць, што ў Вас расстройства псіхікі.
- Праўда, доктар?
- Канешне.
- Але я забылася Вам сказаць, што жыву на шостым паверсе.

# Гараскоп

♈ **Баран (21.03-20.04).** Трымайце свае эмоцыі пад кантролем, не давайце волі рэўнасці: можаце сапсаваць як партнёрскія, так і сямейныя адносіны.

♉ **Бык (21.04-20.05).** Памятайце: толькі блізкія людзі здольныя падтрымаць Вас на гэтым тыдні.

♊ **Блізняты (21.05-21.06).** Тыдзень абяцае быць багатым на вечарынкі і ўрачыстасці. Галоўнае - не перабраць са спіртным.

♋ **Рак (22.06-22.07).** Думайце пра перспектыву, не варта жыць імгненнымі жаданнямі. Пазбягайце канфліктных сітуацыяў дома і на працы.

♌ **Леў (23.07-23.08).** Пачуцці могуць завесці Вас залішне далёка. Мо лепей не рызыкаваць?

♍ **Панна (24.08-23.09).** Паездка абяцае дробныя фінансавыя выдаткі. Не хвалюйцеся за яе поспех.

♎ **Шалі (24.09-23.10).** Не загружайце сябе сямейнымі праблемамі, бо запусціце працу альбо здароўе.

♏ **Скарпіён (24.10-22.11.)** Падзеі гэтага тыдня могуць развеяць Вашыя сумневы, што дазволіць падысці да вырашэння важных пытанняў з іншага боку.

♐ **Стралец (23.11-21.12).** Не спрабуйце браць на сябе адказнасць за ўсіх - пашкадуеце.

♑ **Казярог (22.12-20.01).** Настройцеся на даволі актыўны тыдзень. Абмінайце канфлікты са сваякамі.

♒ **Вадалей (21.01-19.02).** Не чакайце кар'ернага росту, гэта часткова кампенсуецца адноснай раўнавагай з асабістага жыцця.

♓ **Рыбы (20.02-20.03).** Хутчэй за ўсё, вялікія выдаткі на гэтым тыдні будуць непазбежнымі, але ў перспектыве акупяцца.

**ПАГОНЯ**
Заснавальнік: культурна-асветніцкі фонд "Бацькаўшчына"

**Адрас рэдакцыі:** 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11. Тэл.72-37-14, 72-35-61, факс 72-29-96. E-mail: pagonia@irex.minsk.by
Падпісны індэкс: **63124.**

Рэгістрацыйны нумар 597. Нумар газеты надрукаваны ў Гарадзенскай абласной узбуйненай друкарні. Адрас: 230023, г.Гродна, вул. Паліграфістаў, 4.
Замова 2240 Наклад 7 110
Нумар падпісаны да друку ў 16.00 12.07.2000 г.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні не абавязкова адлюстроўваюць пагляд рэдакцыі. Якасць друку адпавядае пададзеным рэдакцыяй дыяпазітывам.
Аб'ём - два ўмоўныя друкарскія аркушы.

Галоўны рэдактар **Мікола Маркевіч**

Камп'ютарны набор: **Аксана Бурдзюк,** камп'ютарная вёрстка: **Дзмітрый Какарэка**